# Голас Радзімы

№ 22 (2164)
31 мая 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Толькі за працавітасць і клопат плаціць сялянам зямля шчодрымі ўраджаямі. У саўгасе «Гоцк» Салігорскага раёна стабільна высокі збор збожжавых, цукровых буракоў, караняплодаў.

Аснова эканамічнага дабрабыту саўгаса — буйны жывёлагадоўчы комплекс, дзе ў адкормачных цэхах набіраюць вагу каля 4 тысяч жывёл і дзе атрымліваюць штогод больш за 1 200 тон мяса. Руплівая праца прыносіць і добры плён. Толькі за мінулы год гаспадарка атрымала амаль адзін мільён восемсот тысяч рублёў чыстага прыбытку. Значная яго частка накіравана на вырашэнне сацыяльна-бытавых патрэб сяльчан. Для рабочых і служачых пабудаваны дамы з добраўпарадкаванымі кватэрамі. Мае адбыцца многа наваселляў і ў гэтым годзе: узводзіцца 24-кватэрны дом і 5 катэджаў для мнагадзетных сем'яў, будуецца бальніца. Добраўпарадкоўваюцца сельскія вуліцы, 15 кіламетраў іх будзе заасфальтавана.

Дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, гандлёвы цэнтр, цудоўная трохпавярховая школа, дзе вучацца ў адну змену каля 500 школьнікаў, — усё гэта спрыяе стабільнасці кадраў у адной з буйнейшых вёсак Салігорскага раёна — Гоцку, моладзь не «бяжыць» адсюль.







● Прыгажэе цэнтральная сядзіба саўгаса «Гоцк».

● Скончыўшы вучобу ў Бабруйску, прыехала па накірунку ў родны Гоцк Іна ДАНІЛЕВІЧ. Цяпер яна працуе закройшчыцай у швейным цэху комплекснага прыёмнага пункта.

● Сакратар парткома саўгаса Анатоль ТАРАСЕВІЧ гутарыць з пенсіянеркамі пасёлка.

● З вялікай цікавасцю займаюцца ў майстэрні па абслугоўваючай працы школьнікі Гоцка. Пад кіраўніцтвам Аляксандры КУНЦЭВІЧ вучні шыюць касцюмы для танцавальных калектываў, вырабляюць розныя сувеніры.

Фота А. НІКАЛАЕВА.

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

# НАПЕРАДЗЕ—РЫНАК?

Чарговае сумеснае пасяджэнне палат Вярхоўнага Савета СССР праходзіла 24 мая пад старшынствам Старшыні Вярхоўнага Савета СССР А. Лук'янава. Яно пачалося дакладам урада «Аб эканамічным становішчы краіны і канцэпцыі пераходу да рэгулюемай рыначнай эканомікі», з якім выступіў Старшыня Савета Міністраў СССР М. Рыжкоў. Ён таксама адказаў на пытанні, зададзеныя дэпутатамі. Тэкст выступлення яны атрымалі загадзя і маглі добра падрыхтавацца да яго абмеркавання.

Пытанні адлюстравалі той спектр інтарэсаў і хваляванняў, якія ахапілі наша грамадства напярэдадні такога важнага кроку. Яны паказалі, што не ўсе праблемы знайшлі дастатковае адлюстраванне ў дакладзе. Гутарка ішла пра тое, чаму ўрад ўсё-такі рашыўся на гэты крок, пра ролю цэнтра ў новых умовах, пра неабходную структуру кіравання, пра рынак працы і, вядома, сацыяльную абароненасць людзей. Усё гэта асабліва важна, бо пераход да новай эканамічнай стратэгіі будзе суправаджацца значным павышэннем усіх відаў цэн, у тым ліку і рознічных. У дакладзе прэм'ер-міністра, у прыватнасці, падкрэсліваецца, што сённяшнія цэны не адлюстроўваюць ні сапраўдных затрат на вытворчасць, ні суадносін попыту і прапановы, ні ўзроўню сусветных цэн—словам, ніякіх эканамічных катэгорый. Такое можа існаваць толькі ў жорстка цэнтралізаванай, размеркавальнай сістэме кіравання, гэта значыць, у дзяржаве, якая забірае ў свае рукі ўсю вытворчасць, усе рэсурсы, што ёсць, і пераразмяркоўвае іх. У гэтым выпадку цэны сапраўды не адыгрываюць вызначальнай ролі. На падставе такіх цэн нельга нават сур'ёзна аналізаваць стан эканомікі. Сапраўды—каралеўства «крывых люстэркаў». У сувязі з гэтым урад краіны лічыць неабходным у пачатку 1991 года цэнтралізавана ажыццявіць адначасовы комплексны перагляд усёй сістэмы цэн.

У прадстаўленым дакладзе вызначаны асноўныя параметры змянення аптовых цэн у прамысловасці і яе галінах. У сярэднім рост цэн тут складзе каля 46 працэнтаў. Пры гэтым у найбольшай ступені будуць павышаны цэны ў паліўна-сыравінных галінах. Па асноўных відах сельскагаспадарчай прадукцыі закупачныя цэны з ... кам узнікаючых выдаткаў вытворчасці і неаб... насці выраўноўвання ўзроўняў рэнтабельнасці павышаюцца да 55 працэнтаў.

Але самыя цяжкія праблемы ўзніклі ў галіне рэформы рознічных цэн. Менавіта тут завязаны ў тугі вузел эканамічныя інтарэсы як дзяржавы, так і кожнай сям'і, кожнага чалавека. Асаб... дэфармаваны цэны на прадукты харчавання. ... ў 2—3 разы ніжэйшыя за іх рэальны кошт. Вытворчасць прадуктаў харчавання стратная, сёння гэта адзін з галоўных тармазаў, што стрымліваюць нарошчванне харчовых рэсурсаў. Калі за апошнія 35 гадоў атрыманы нацыянальны даход павялічыўся ў 6,5 раза, то дзяржаўныя датацыі да цэн—больш чым у 30 разоў. Цяпер датацыя толькі па прадуктовых таварах складае каля 100 мільярдаў рублёў, а з увядзеннем новых закупачных цэн без перагляду рознічных яна павялічылася б яшчэ амаль на 30 працэнтаў і склала пятую частку ўсіх расходаў дзяржаўнага бюджэту. Разлікі паказваюць, што рознічныя цэны на прадукты харчавання неабходна павялічыць у сярэднім прыкладна ў 2 разы, у тым ліку на мясныя прадукты—у 2,3, рыбныя—2,5, малочныя—2, хлебапрадукты—3, цукар—1,8, алей—у 1,7 раза.

Разам з прадуктамі харчавання намячаецца таксама павышэнне рознічных цэн на асобныя віды непрадуктовых тавараў. Пры гэтым цэны на тканіны і вырабы з іх павялічацца на 30—50 працэнтаў, абутак—на 35, вырабы з футра—на 20, асобныя віды тавараў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння—на 30, будаўнічыя матэрыялы—на 50 працэнтаў.

Прадугледжваецца павышэнне тарыфаў на бытавыя і камунальныя паслугі (акрамя кватэрнай платы)—на 70 працэнтаў, на пасажырскія перавозкі авіяцыйным і чыгуначным транспартам—на 50 працэнтаў.

Для таго каб неяк кампенсаваць непазбежныя страты з боку насельніцтва, ствараецца сістэма кампенсацый. Перш за ўсё яна павінна забяспечыць грамадзянам кампенсацыю матэрыяльных страт, што ўзнікнуць у сувязі з адначасовым павышэннем рознічных цэн. Якія ж крытэрыі былі пакладзены ў аснову выбару варыянтаў кампенсацыйных мер?

Першы: асноўная частка насельніцтва не павінна мець значных страт пры ўвядзенні новых цэн. Другі: у найбольшай меры павінны быць абаронены інтарэсы малазабяспечаных катэгорый насельніцтва (пенсіянераў, студэнтаў, мнагадзетных сямей). І, нарэшце, трэці: неабходна не дапусціць узмацнення сацыяльнай напружанасці, дасягнуць максімальна магчымай грамадскай згоды адносна зместу намячаемых мер.

Агульнае павышэнне рознічных цэн на прадукты харчавання, непрадуктовыя тавары і тарыфаў на паслугі складзе 198,8 мільярда рублёў. З гэтай сумы будзе накіравана на кампенсацыйныя выплаты насельніцтву 135 мільярдаў рублёў, ці каля 70 працэнтаў.

«ЛІДСЕЛЬМАШ» ЭКСПАРТУЕ





**Выпуск малагабарытнай тэхнікі для фермераў і арандатараў асвойвае калектыў завода «Лідсельмаш» Гродзенскай вобласці. Заводскія канструктары распрацавалі двухрадную бульбасаджалку, аднарадны ўборачны камбайн, бульбакапалку, якую можна будзе выкарыстаць як прычапны агрэгат для матаблока.**

**Прадукцыя «Лідсельмаша» карыстаецца попытам у нас у краіне, знайшла яна спажыўца і за мяжой. Так, партыю бульбакапалак закупіла Аргенціна, некаторыя вузлы і дэталі машын беларускае прадпрыемства пастаўляе заходнегерманскай фірме «Нявёнер». Рост экспартных паставак дае заводу валюту, а з ёю і магчымасць аснашчаць цэхі больш прагрэсіўным абсталяваннем.**

**НА ЗДЫМКАХ: рыхтуецца да адпраўкі груз для ФРГ; сучасны цэнтр па апрацоўцы ліставога металу, які куплены за валюту, устаноўлены на прадпрыемстве. Абслугоўвае яго інжынер-тэхнолаг Дзмітрый ВІЛЕНЧЫК.**

СВЯТА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ

## ВЫТОКІ ЕДНАСЦІ

**Свята славянскага пісьменства і культуры, якое звыш стагоддзя назад нарадзілася на балгарскай зямлі ў гонар творцаў славянскай азбукі Кірылы і Мяфодзія, 24 мая пачало сваё шэсце па гарадах і вёсках Беларусі. У нашай краіне яно праводзіцца з 1986 года, прайшло ў Мурманску, Волагдзе, Ноўгарадзе і Кіеве. Сёлетняе асветлена імем Францыска Скарыны, вялікага сына беларускай зямлі, 500-гадовы юбілей якога адзначае ўсё прагрэсіўнае чалавецтва.**

**У дзень адкрыцця свята адбылася Літургія ў Мінску ў Кафедральным саборы ў гонар славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія, адкры... мемарыяльнага знака на вуліцы, якая цяпер ...ць іх імя.**

**У нашым свяце ўдзельнічалі афіцыяльныя дэлегацыі з Балгарыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Югаславіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Расійскай Федэрацыі, прадстаўнікі Усесаюзнага фонду славянскага пісьменства. Усесаюзнага фонду культуры, духавенства, вядомыя вучоныя з Маск... Ленінграда, Кіева, іншых гарадоў. Да нас пр... алі прадстаўнікі беларускіх зямляцтваў Масквы, Прыбалтыкі, Польшчы, творчыя калектывы зарубежных краін, саюзных рэспублік, а таксама ўсіх абласцей Беларускай ССР — усяго звыш тысячы чалавек.**

**Беларусы знаёмілі ўсіх удзельнікаў свята са сваёй рэспублікай, з яе багатай культурай, карані якой у далёкім мінулым славянства. Адбылася навуковая канферэнцыя «Славяне — адзінства і разнастайнасць», свята паэзіі «Роднае слова» ў Вязынцы, Дні славянскага кіно, выставы жывапісу, старажытнай кнігі, біблій, беларускіх народных музычных інструментаў, фестывалі духоўнай музыкі і славянскай камернай музыкі.**

**Усе святочныя мерапрыемствы прасякнуты ідэяй інтэрнацыяналізму, беражлівых адносін да духоўнага скарбу кожнага народа.**

**У «Голасе Радзімы» сёння змешчаны артыкул консула Генеральнага консульства НРБ у Мінску П. Куцарава «Ідзі, народзе уваскрэслы», у наступным нумары газеты будзе справаздача аб розных падзеях свята.**

ДАГАВОР ВЫКОНВАЕЦЦА

## АПОШНЯЯ РАКЕТА

**23 мая 1990 года ў 9 гадзін па маскоўскаму часу на базе ліквідацыі ракет «Лясная» ў Брэсцкай вобласці знішчана апошняя з 149 ракет сярэдняй дальнасці тыпу Р-12.**

**1 чэрвеня 1990 года споўніцца два гады з дня ратыфікацыі і ўступлення ў сілу Дагавора паміж СССР і ЗША аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці. У пачатку гэтага года была поўнасцю знішчана апошняя ракета меншай дальнасці. Цяпер прыйшла чарга адной з двух тыпаў «сярэдніх» ракет — Р-12. Яна вадкасная, стаяла на баявым дзяжурстве каля трох дзесяткаў гадоў.**

**Усяго ў адпаведнасці з савецка-амерыканскім Дагаворам аб ліквідацыі РСД і РМД у нас павінна быць знішчана 809 ракет сярэдняй дальнасці, з іх 155 Р-12 і Р-14.**

**А на апошні год ліквідацыі, да чэрвеня 1991 года, засталося для знішчэння толькі 200 ракет РСД-10 і 177 пускавых установак. Крыху больш чым праз год ракеты гэтага тыпу можна будзе сустрэць толькі ў музеях.**

РАСПРАЦОЎКІ

## «РАТОН-901»

**У адпаведнасці з урадавымі рашэннямі аб ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС творчы калектыў, створаны на Гомельскім заводзе радыётэхналагічнага аснашчэння, сканструяваў і падрыхтаваў да вытворчасці дазіметр індывідуальнага карыстання «Ратон-901».**

**Гэты кампактны і зручны ў карыстанні прыбор за некалькі секунд вызначае ступень забруджанасці радыенуклідамі скуранога покрыва, адзення, абутку, прадметаў хатняга ўжытку, прадуктаў харчавання, збудаванняў, транспартных сродкаў, механізмаў, глебы, кармоў для жывёлы і г. д.**

**Навінка паспяхова вытрымала дзяржаўныя выпрабаванні. Да канца бягучага года завод выпусціць не менш, як 20 тысяч такіх неабходных дазіметраў.**

*Час архіцяжкі. Сем'і распадаюцца, мараль падае. Адны нацыі паўстаюць супраць другіх. Але першапрычына бязладдзя — не ў нацыянальным пытанні ці няўменні людзей жыць у міры і згодзе. Як эканаміст, бачу корань зла ў тым, што мы развучыліся гаспадарыць, «размужычылі» краіну, адарваліся ад зямлі.*

*Заўсёды лічылася: каб нарадзіць дзіця, трэба мець здаровую цяжарную жанчыну і дзевяць месяцаў. Нашы ж эканамісты выбралі іншы спосаб — вырашылі ўзяць дзевяць жанчын і даць ім на ўсё месяц. Трэба набрацца цярпення на ўсе дзевяць месяцаў. Зрэшты, гэта фігуральна. Рэальны тэрмін — чатыры-пяць гадоў. Гэта будзе нялёгкая цяжарнасць, поўная таксікозу. Але голаду не прадбачу, і мы народзім здаровае дзіця. Трэба закасаць рукавы і ўсёй грамадой брацца за справу. Гарбачоў сваё слушнае слова сказаў. Але на прэзідэнта спадзявайся, а сам не памыляйся.*

*(Юрый ТАРАСАЎ, член Ордэна калдуноў Расіі).*

РАДЫЁМОСТ



**Новы радыёмост звязаў гарады-пабрацімы Мінск і Франкфурт-на-Майне. Для арганізацыі перадач у беларускай сталіцы пабывалі заходнегерманскія журналісты Норберт Шрайбер і Андрэас Маер-Файст. У сябе на радзіме яны ўжо правялі серыю радыётрансляцый, у якіх заклікалі суайчыннікаў арганізаваць добраахвотныя ахвяраванні жыхарам Беларусі, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Цераз прамы эфір радыёжурналісты звярнуліся і да насельніцтва Еўропы, да прадстаўнікоў фірм розных краін стаць спонсарамі ў гэтай высакароднай місіі.**

**У перадачах з Мінска Норберт і Андрэас расказалі нямецкім слухачам пра горад-пабрацім, пра яго праблемы. Затым гэтыя перадачы ў запісе перадасць на краіны Заходняй Еўропы радыёстанцыя «Савецкая Беларусь».**

**НА ЗДЫМКУ: выхад у прамы эфір. Злева направа — Норберт ШРАЙБЕР, Андрэас МАЕР-ФАЙСТ і карэспандэнт Беларускага радыё Уладзімір СКВАВЦОЎ.**

*САЦЫЯЛАГІЧНАЕ АПЫТАННЕ*

# ЦІ ГАТОВЫ МЫ ДА ПРЫВАТНАГА ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

Акадэмік Станіслаў Шаталін лічыць, што многія прадстаўнікі савецкага «ценявога бізнесу»—гэта разумныя дзелавыя людзі, здольныя хутка адгукнуцца на патрэбы рынку, якія да тонкасцей ведаюць механізм прыватнага прадпрымальніцтва. Нямала такіх жа дзелавых людзей «нараджаюць», на яго думку, і сумесныя прадпрыемствы на тэрыторыі СССР. Але ўсё роўна гэта «кропля ў моры» сярод асноўнай колькасці работнікаў, якія прывыклі за доўгія гады каманднa-адміністрацыйнай сістэмы дзейнічаць выключна па загадах «зверху».

Дык наколькі ж савецкі чалавек гатовы да прыватнага прадпрымальніцтва? Адказ на гэтае пытанне (хаця, вядома, і прыблізны) дае сацыялагічнае апытанне, праведзенае Усесаюзным цэнтрам вывучэння грамадскай думкі. Было апытана каля 3 000 чалавек, якія прадстаўляюць розныя сацыяльныя і дэмаграфічныя слаі насельніцтва. Перш за ўсё высветлілася, што амаль тры чацвёртыя апытаных лічаць неабходным развіццё ў СССР дробных прыватных прадпрыемстваў. І гэта не дзіўна. Паводле даных іншага сацыялагічнага абследавання, многія грамадзяне і ў мінулыя гады пастаянна карысталіся паслугамі так званых нелегальных прыватнікаў: для рамонту абутку—50 працэнтаў, кватэр—45, аўтамабіляў—40 і бытавой тэхнікі—30 працэнтаў. Вось чаму легалізацыя гэтых сфер паслуг і не выклікае адмоўных адносін.

А вось да перадачы ў прыватнае валоданне буйных прадпрыемстваў становуча паставілася толькі чвэрць удзельнікаў апытання, таму што ў многіх адразу ўзнікае асацыяцыя з наёмнай працай і эксплуатацыяй. Гэты стэрэатып доўгія гады прывіваўся савецкім грамадзянам, што ў рэшце рэшт дазволіла дзяржаве стаць галоўным эксплуататарам у краіне. Бо менавіта яна з'яўлялася ўласнікам усіх прадпрыемстваў, яна прысвойвала сабе прыбавачную вартасць, значная частка якой ішла на ўтрыманне занадта раздутага кіраўніцкага апарата, які нічога не вырабляе. Таму даказаць, што эксплуатацыя на прыватным прадпрыемстве з высокім узроўнем аплаты працы, сацыяльнай абароненасцю (а гэта лёгка зрабіць з дапамогай дзяржаўнага кантролю і сістэмы падаткаабкладання) лепш за эксплуатацыю на цяперашнім дзяржпрадпрыемстве, можа толькі час і практыка.

Дарэчы, стэрэатып мыслення спрацаваў і ў савецкіх парламентарыяў, якія прынялі Закон аб уласнасці. З аднаго боку, яны разумелі, што толькі індывідуальная праца вырашыць усіх праблем не можа. І таму прагаласавалі за права ўласніка «заключаць дагаворы з грамадзянамі аб выкарыстанні іх працы пры ажыццяўленні права ўласнасці, якое яму належыць». Але з другога, прытрымліваючыся правіл ідэалагічнай гульні, пакінулі ў законе пункт аб немагчымасці існавання ў СССР форм уласнасці, звязаных з адчужэннем работніка ад сродкаў вытворчасці і эксплуатацыяй чалавека чалавекам. Алагізм «чыстай вады», але, праўда, цалкам зразумелы і, відаць, пакуль яшчэ непазбежны.

І нарэшце, прывядзём даныя аб тым, наколькі актыўна савецкія грамадзяне імкнуцца да прыватнапрадпрымніцкай дзейнасці. Жаданне адкрыць сваю «справу» (прадпрыемства, ма[illegible]зін, майстэрню, кафэ) вы[illegible]залі крыху больш за 30 працэнтаў апытаных. 45 працэнтаў цвёрда не хочуць гэтага, а каля 23 працэнтаў—сумняваюцца. Такім чынам, можна меркаваць, што форм[illegible] сферы распаўсюджання п[illegible]ватнай уласнасці могуць [illegible] далейшым расшырацца. Але гэта адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі дзяржава своечасова ўвядзе адпаведныя эканамічныя рэгулятары гэтага працэсу. Без іх развіццё прыватнай уласнасці непазбежна прывядзе да паглыблення маёмаснага расслаення савецкага грамадства, да істотнага ўзмацнення негатыўных адносін насельніцтва да прыватнапрадпрымніцкай дзейнасці. І тады ўзнікае небяспека спакусы прымяніць адміністрацыйныя меры для заспакаення грамадскай думкі.

**Аляксандр ВАЗНЯСЕНСКІ.**

# З ПАРЫЖА Ў МАСКВУ... НА КАНІ

Цікавае відовішча чакаецца ў канцы чэрвеня ці ў самым пачатку ліпеня на шашы, што вядзе з Брэста ў Маскву: тут праедзе незвычайны госць—французскі коннік. Імя яго—Жан-Луі Гуро. Яму 47 гадоў, ён выдавец, які спецыялізуецца на літаратуры пра коней. Магчыма, якраз таму і ведае, што падобны вяж ужо аднойчы быў зроблены Міхаілам Асеевым, які сто з лішнім гадоў назад конна адолеў шлях ад горада Любны, што пад Кіевам, да Парыжа — усяго 2 633 кіламетры за 33 дні.

Жан-Луі Гуро вырашыў паўтарыць цікавае падарожжа, толькі змяніў маршрут—ад Парыжа да Масквы ды не збіраецца спяшацца: паездка зойме прыблізна 75 дзён. Фініш у Маскве намечаны на 14 ліпеня — дзень нацыянальнага свята Францыі — узяцця Бастыліі. А асноўныя этапы шляху французскага конніка — Бар ле Дзюк, Камерсі (Францыя), Сарэнбрук, Нейштат, Бамберг (ФРГ), Карл-Маркcштат, Любен (ГДР), Познань, Станіславаў (Польшча), а на тэрыторыі СССР — Брэст, Мінск і Смаленск.

Увесь гэты пераход Жан-Луі Гуро збіраецца правесці без суправаджэння, узяўшы з сабой толькі самае неабходнае (што змесціцца вакол сядла). Як прыхільнік «туркменскага» спосабу коннай язды, ён адправіцца ў паход на двух конях: пакуль адзін вязе конніка і паклажу, другі адпачывае, потым адбываецца змена коней, якіх пасля фінішу ў Маскве коннік збіраецца пакінуць у СССР — у якасці своеасаблівага падарунка.

Неабходна адзначыць, аднак, што не дзеля прыцягнення да сябе ўвагі задумаў гэту незвычайную паездку Жан-Луі Гуро. Ён марыць бліжэй пазнаёміцца з нашай краінай, усё ўбачыць на ўласныя вочы, а затым напісаць і апублікаваць дарожныя нататкі. Акрамя таго, у час свайго паходу ён мае намер займацца распаўсюджаннем Міжнароднай Хартыі фізічнага выхавання і спорту ЮНЕСКА, пад «флагам» якой, уласна, і здзяйсняе падарожжа.

**Наталля БУЛДЫК.**

*ПРАБЛЕМА БЕСПРАЦОЎЯ*



# «ШУКАЮ РАБОТУ...»

Праблема беспрацоўя... Яшчэ ўчора матэрыялы гэтай тэматыкі можна было сустрэць толькі пад рубрыкай «Іх норавы»... Гэта азначала, што беспрацоўе — праблема Захаду. Сёння яна стукаецца і ў нашы дзверы. Намеснік дырэктара Мінскага гарадскога цэнтра па працаўладкаванню, перанавучанню і прафарыентацыі насельніцтва Сяргей Такарэўскі зазначыў, што юрыдычны статус беспрацоўнага ў нас пакуль не вызначаны. Штомесяц у горадзе маецца 10—12 тысяч вакансій. У год жа ў цэнтр звяртаецца за дапамогай да 33-х тысяч чалавек. Значыць, калі браць голыя лічбы, усім могуць прапанаваць работу. Але на справе, вядома, усё больш складана. Сёння самыя вострадэфіцытныя прафесіі — муляр, токар, шліфавальшчык, сантэхнік, вадзіцель. Жадаючых заняць гэтыя вакансіі знайсці нялёгка. А вось, напрыклад, юрысту, педагогу, таваразнаўцу, хіміку, біёлагу прапанаваць работу вельмі цяжка. Ды і з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй уладкавацца няпроста. Прадпрыемствы і арганізацыі стараюцца выбраць людзей з вопытам, з вузкай спецыялізацыяй у той галіне, якой трэба будзе займацца. Згодна з палажэннямі, выпрацаванымі Міжнароднай арганізацыяй працы, членам якой з'яўляецца і наша краіна, беспрацоўнымі прызнаюцца людзі, здольныя працаваць, гатовыя да гэтага, але якія не могуць уладкавацца з-за адсутнасці вакансій, што задавальнялі б іх інтарэсы. У гэтым сэнсе, вядома, трэба прызнаць наяўнасць беспрацоўных і ў нас. Сённяшнія тэндэнцыі развіцця нашай эканомікі прадугледжваюць значнае вызваленне колькасці працуючых. Значыць, патэнцыяльны паток наведвальнікаў у цэнтры на працаўладкаванне будзе павялічвацца. Ужо з пераходам на гасразліковыя адносіны колькасць людзей, звольненых па скарачэнню штатаў, прыкметна павялічылася. Папоўніўся іх кантынгент і за кошт некаторых непрадуманых рашэнняў. Напрыклад, зусім нядаўна гаварылі пра выдатную навацыю, якая забяспечыць незвычайны якасны рост прадукцыі — увядзенне дзяржпрыёмкі. Ідэя пацярпела фіяска. Сёння вялікі атрад высокакваліфікаваных спецыялістаў — у пошуках працы. Бясспрэчна, што з выхадам народнай гаспадаркі на больш высокі віток навукова-тэхнічнага прагрэсу, пераходам на планава-рынычныя адносіны і, як вынік, ростам эфектыўнасці вытворчасці, патрэбнасці ў рабочых нізкай кваліфікацыі будуць зніжацца. Новыя свабодныя рукі з'явяцца і ў выніку структурных змен у нашай эканоміцы, канверсіі, скарачэння армейскага кантынгенту. Таму ў бліжэйшы час чакаецца значнае прыбаўленне людзей, якія шукаюць працу. Але калі ў краіне ўжо праяўляюць заклапочанасць гэтымі пытаннямі, то ў нас у Беларусі, на думку С. Такарэўскага, пакуль не ўсвядомілі ўсёй сур'ёзнасці насьпяваючай сітуацыі. Пакуль што пытаннямі занятасці насельніцтва, перспектывамі гэтай праблемы па-сапраўднаму ніхто не займаецца. Ужо сёння неабходна праводзіць спецыяльныя сацыялагічныя даследаванні, рабіць аналізы і разлікі, рыхтаваць навукова-абгрунтаваныя прагнозы, трэба падключыць навуку, але пакуль назіраецца толькі дзіўная абыякавасць да гэтых непазбежных і трывожных праблем: на больш чым паўтарамільённы Мінск гарвыканком выдзеліў сёлета на вырашэнне пытанняў занятасці насельніцтва ўсяго 75 тысяч рублёў, чаго, вядома ж, надта мала. Цяпер у краіне ідзе распрацоўка Закона аб занятасці. Але не трэба было б чакаць, пакуль ён з'явіцца. Ужо сёння неабходна пачаць падрыхтоўку асновы для яго ў рэспубліцы, арганізаваць творчы калектыў, які ўключаў бы псіхолагаў, сацыёлагаў, эканамістаў, прадстаўнікоў іншых навук. У нас усе балансавыя разлікі занятасці грамадзян арыентуюцца на старыя параметры, а гаспадарчы ж механізм перажывае істотныя змены, таму неабходна навукова-абгрунтаваная праграма занятасці насельніцтва. Толькі калі ўсё грамадства зразумее вострую патрэбу на сур'ёзнай навуковай аснове займацца пытаннямі занятасці, працаўладкавання і перанавучання насельніцтва, «айсберг», у якім многія стараюцца бачыць пакуль толькі надводную частку, пачне паціху раставаць.



**НА ЗДЫМКАХ: аператар аддзела распрацоўкі і ўкаранення аўтаматызаванай сістэмы кіравання гарадскога цэнтра па працаўладкаванню Валянціна ТРЫЧЫНСКАЯ рыхтуе інфармацыю па вакансіях для раённых бюро па працаўладкаванню насельніцтва; з пачатку лютага шукае работу былы галоўны эканаміст трэста Генадзь ЛОЙКА. «Вакансій многа, — гаворыць ён. — Але...»; днямі прастойваюць ля гарадскога цэнтра па працаўладкаванню тыя, хто шукае выпадковую працу.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

**ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»**

ВАЛЯНЦІНА АКОЛАВА

Я ЛЮБЛЮ СВАЮ БЕЛУЮ РУСЬ...

Імя беларускай паэткі Валянціны Аколавай вядома чытачам «Голасу Радзімы». Мы неаднойчы публікавалі на старонках газеты яе вершы, яе пераклады з Ахматавай і Пастарнака. Нядаўна ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» выйшаў зборнік В. Аколавай «Я люблю сваю Белую Русь...», дзе змешчаны лірычныя балады, санеты і фантастычная паэма-п'еса «Палачанка Ігрэна».

Адкрываецца зборнік зваротам да чытача, у якім пісьменніца спавядаецца:

**Я люблю сваю**
**Белую Русь,**
**нібы маму сваю...**
**Так, як славяць вясною**
**каліны зямлю,**
**Што разбуджвае сок,**
**квецень ярка ўзвышае.**
**Будзь, Радзіма, як зоркі,**
**заўсёды ў пашане.**

Гэта любоў да Бацькаўшчыны праяўляецца ў веданні і пашане да роднага слова, гісторыі свайго народа, павазе да яго звычаяў і абрадаў, у захапленні фальклорам.

Менавіта з беларускага фальклору і прыйшло да Валянціны Аколавай адчуванне і разуменне паэзіі, у народнай творчасці вытокі натхнення і майстэрства пісьменніцы. Яшчэ пасля знаёмства з яе першымі вершамі паэт Пімен Панчанка назваў іх чалавечнымі і шчырымі, адзначыў іх свежасць, яркасць і праўдзівасць.

«Загукай, случанка, песню прашчуранкі!», вянок санетаў «Случ», купальская быль «Зарына», змешчаныя ў згаданым зборніку, шчырыя, паэтычныя, напеўныя і вобразныя, як народныя песні.

Веданнем фальклору В. Аколава ў многім абавязана сваёй бабулі Алене Аколавай, якой прысвяціла не адзін паэычны твор. «Чалом—песні Беларусі, —гаворыць паэтка.—Ты схілялася над калыскай полацкага першадрукара Францыска Скарыны; тваё пругкае вясновае голле-заклік загартоўвала волю Кастуся Каліноўскага; твая клапатлівая страфа выпраўляла ў дарогу верш-музу Цёткі; паіла і наталяла чысцінёй крыніцу паэзіі Максіма Багдановіча; аберагала раскацісты радок лірыкі Уладзіміра Караткевіча...»

Францішку Скарыне, неўміручасці яго творчай спадчыны прысвечана п'еса «Палачанка Ігрэна». Багацце ведаў, што яшчэ ў старажытныя часы далі беларусам Ефрасіння Полацкая і Францішак Скарына, не мае цаны, яны і сёння абуджаюць нашу нацыянальную самасвядомасць.

**Імёны вашыя не возьме**
**памяць,**
**Калі кастры мінулага**
**распаліць.**

На Рэспубліканскім конкурсе, прысвечаным 500-гадоваму юбілею беларускага першадрукара, п'еса В. Аколавай атрымала прэмію.

**Д. БАБАК.**

## СПРАВА КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ НА БЕЛАРУСІ

# ІДЗІ, НАРОДЗЕ УВАСКРЭСЛЫ!

Свята славянскага пісьменства і культуры
МІНСК 1990

Больш за 1100 гадоў аддзяляюць нас ад 855 года, калі святыя браты Кірыла і Мяфодзій стварылі літары старабалгарскай мовы і выкавалі «неўміручае», як яго называюць у старых жыццях, «пісьмовае слова». У тую эпоху славян-язычнікаў, якія не мелі сваёй кніжнасці, лічылі варварамі, дзікунамі. І хаця яны стваралі ўласныя княствы, вялі жорсткія бітвы з ворагамі, імкнучыся заняць належнае месца ў свеце, кніжная мудрасць, што магла б далучыць іх да культуры таго часу, была ім невядомай. Не маючы ўласнай азбукі, славяне скарыстоўвалі пісьменнасць іншых народаў. Так у заходніх славянскіх землях стала распаўсюджвацца лацінская мова, а ў Балгарыі з прыходам балгар на Балканскі паўвостраў і ўтварэннем балгарскай дзяржавы выкарыстоўвалі грэчаскае пісьмо.

Адсутнасць пісьменнасці на народнай мове асабліва стала адчувальнай у цараванне князя Барыса І (852—889 гады), пры якім ў 865 годзе афіцыйна было прынята хрысціянства.

Менавіта ў другой палове IX стагоддзя, калі не толькі балгары, але і славянскія княствы на поўдні, усходзе і захадзе, якія толькі што прынялі хрысціянства ці ўсё яшчэ не прынялі яго, шукалі сваю пісьменнасць, у жыццё славянства ўвайшлі два браты — Кірыла і Мяфодзій, якія здзейснілі паварот у гісторыі славянства. Яны стварылі новую азбуку і з яе дапамогай пераклалі з грэчаскай мовы першыя богаслужэбныя кнігі. Тым самым яны паклалі пача[...] старабалгарскай і славянс[...] літаратур на роднай мове. Перакладаючы складаную рэлігійную філасофію Евангелля і своеасаблівую паэзію «Псалтыры», браты знайшлі ў народнай мове, якая лічылася «грубай», нечаканае стылістычнае і моўнае багацце.

Азбука ўжо была, першыя пераклады — таксама. Заставалася толькі распаўсюдзіць створаную пісьменнасць. Але менавіта тут браты ў самым пачатку сваёй асветніцкай дзейнасці сутыкнуліся з трохмоўнай догмай, што прапаведавалася нямецкім духавенствам у маравскіх землях, куды Кірыла і Мяфодзій былі накіраваны ў 863 годзе па просьбе мараўскага князя Расціслава. У адпаведнасці з гэтай догмай, толькі тры свяшчэнныя мовы маглі выкарыстоўвацца для праслаўлення бога — яўрэйская, лацінская і грэчаская. Кірыла і Мяфодзій змагаліся на працягу ўсяго свайго жыцця за ўсталяванне старабалгарскай пісьменнасці.

Святыя першанастаўнікі нашы абаранялі права кожнага народа мець сваю мову, сваю пісьменнасць і культуру. Акрамя таго, стварэннем славянскай азбукі і першай літаратуры на гутарковай мове яны ажыццявілі паварот у развіцці ўсёй славянскай культуры.

У цяжкай барацьбе з прыхільнікамі трохмоўя Кірыла і Мяфодзій упершыню ў сярэдневяковай Еўропе прапагандуюць і адстойваюць права кожнага народа пісаць, чытаць і тварыць на роднай мове. Сваю вялікую справу салунскія браты здзейснілі ў той час, калі кожны, хто змагаўся за раўнапраўе народаў, рызыкаваў наклікаць на сябе гнеў і кару сярэдневечнай інквізіцыі.

Неўзабаве пасля таго, як папа Адрыян II асвяціў перакладзеныя Кірылам і Мяфодзіем кнігі і аб'явіў свяшчэннікамі іх вучняў, Кірыла памёр (14 лютага 869 года) ва ўзросце 42 гадоў. Яго пахавалі з пашанай у Рыме ў храме святога Клімента-Рымскага, мошчы якога папа Адрыян II знайшоў і прывёз у свяшчэнны горад. На пахаванні прысутнічалі члены рымскай царквы і вучні славянскіх братоў. Аўтар «Жыцця Кірылы» расказвае, што, паміраючы, Кірыла завяшчаў Мяфодзію: «Брат мой, мы былі з табой, як два валы ў адной запрэжцы, што пракладвалі адну баразну. Завяршаючы жыццё сваё, падаю я на ніву. Ты вельмі любіш горы (г. зн. пустэльніцтва), але не пакідай свайго вучэння дзеля іх».

Мяфодзій выканаў запавет брата і падрыхтаваў многа вучняў, перакладаў новыя творы з грэчаскай на старабалгарскую мову. З дапамогай двух сваіх спадзвіжнікаў - скарапісцаў ён пераклаў богаслужэбныя кнігі, дыспуты брата Кірылы з хазарамі. Мяфодзій праявіў сябе выдатным філолагам і перакладчыкам. І калі Кірыла ў большай ступені быў творцам старабалгарскай пісьменнасці, то ў справе перакладу пальма першынства належыць Мяфодзію.

6 красавіка 885 года архіепіскап Мяфодзій памёр у акружэнні сваіх вучняў. Што ж ён ім завяшчаў? Перш за ўсё дасканалую азбучную сістэму старажытнабалгарскай мовы — глагалічную, кніжную мову, заснаваную на паўднёвых балгарскіх гаворках, мову, здольную перадаваць усе тонкасці хрысціянскіх богаслужэбных [...]аў; мудры перакладчыцкі [...]нцып — быць дакладным у перадачы не літары, але духу арыгінала; пераклады Свяшчэннага пісання і некаторых іншых кананічных хрысціянскіх кніг. І яшчэ вялікую, не ажыццёўленую да канца ідэю, ідэю стварэння самастойнай славянамоўнай царквы. Зрэшты, вучням Кірылы і Мяфодзія дасталася ў спадчыну і смяротная нянавісць нямецка - лацінскага духавенства да справы двух салунскіх братоў.

Адразу ж пасля смерці Мяфодзія праціўнікі груба расправіліся з яго вучнямі. Горазд, якога ён рыхтаваў замест сябе на архіепіскапскі прастол, нават не паспеў трапіць у Рым, каб атрымаць благаславенне папы. Усіх вучняў арыштавалі, білі, катавалі, затым тых, хто старэйшы, выслалі з Вялікай Маравіі, а хто быў маладзейшы, прадалі на торгу рабоў у Венецыі. Так была знішчана славянская асветніцкая справа ў Вялікай Маравіі. Яе ледзь прыкметныя сляды яшчэ захоўваліся ў IX—XI стагоддзях на чэшскіх землях, у асобных манастырах, але неўзабаве і яны зніклі.

Нямецка-лацінскае духавенства было задаволена. Пасля смерці Мяфодзія і выгнання яго вучняў палі ўсе перашкоды, што стрымлівалі навязванне татальнага культурна - палітыч-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

# КАШТОЎНЫ ДАРУНАК З РОТЭРДАМА

Фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Калінка» з горада Ротэрдама на працягу ўжо дваццаці гадоў карыстаецца папулярнасцю ў самадзейным руху замежных суайчыннікаў. І не толькі тых, хто жыве ў Галандыі, але, бадай, і ва ўсёй Заходняй Еўропе. Знаўцы заўжды адзначалі высокі выканаўчы ўзровень калектыву: ягонага хору, танцавальнай і аркестравай груп, у якіх бярэ ўдзел каля шасці дзесяткаў самаадданых аматараў нашага многанацыянальнага мастацтва. Яно ж прадстаўлена ў іх творчасці канцэртнай праграмай, складзенай з трох самастойных аддзяленняў: рускага, украінскага і беларускага. А сакрэт даўгавечнасці і папулярнасці «Калінкі» тлумачыцца перш за ўсё сугучнасцю духоўных інтарэсаў яе ўдзельнікаў, як нашых суайчыннікаў, так і карэнных жыхароў галандцаў, колькасць якіх у гэтай цікавай артыстычнай групе нават пераважае.

Трывалыя сувязі з артыстамі-аматарамі наладзіла Беларускае таварыства «Радзіма». Адзін з напрамкаў гэтых кантактаў: мастац[...] суполка з берагоў Рэйна штогод запрашаецца таварыствам у [...] на курсы ўдасканалення майстэрства кіраўнікоў і ўдзельні[...], мастацкай самадзейнасці.

Але ж не толькі беларускімі песнямі і танцамі азначыла «Калінка» свае адносіны да нашага народа. Гуманістычнымі пачаткамі прасякнуты нядаўні акт дабрачыннасці ансамбля. Ён ахвяраваў таварыству «Радзіма» медыцынскі апарат «штучная нырка» коштам 80 000 долараў. І наказаў перадаць яго на справу ліквідавання вынікаў чарнобыльскай трагедыі.

Наказ ужо выкананы, каштоўны дарунак адразу ж быў накіраваны ў аддзяленне рэанімацыі Мінскай абласной бальніцы. Яго загадчык Валянцін Руды адзначыў:

— Вядома, такі высокаэфектыўны апарат нам вельмі патрэбны. Вялікае дзякуй дабрадзейным суайчыннікам з Ротэрдама! У хуткім часе ў нашай бальніцы пачне працаваць аддзяленне гравітацыйнай хірургіі, дзе і зойме сваё пастаяннае месца «штучная нырка» і дазволіць рабіць на працягу круглых сутак складаныя аперацыі цяжкім хворым з Мінскай вобласці.

«Нырка», падкрэсліваю,— неабходная рэч. Аднак дзеля бесперапыннай работы нам і надалей спатрэбіцца ўвага суайчыннікаў з Галандыі, бо мы хутка выкарыстаем тыя аднаразовыя насадкі, ці дыялізатары, што прыйшлі ў камплекце, і будзем стаяць з-за іх адсутнасці. Разлічваем тут і на дапамогу таварыства «Радзіма».

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Калінка»; момант перадачы апарата «штучная нырка» ўрачам Мінскай абласной бальніцы.**

# СОЦИАЛИЗМ И ПЕРЕСТРОЙКА: ВОПРОСЫ ТЕОРИИ

**Директор Института марксизма-ленинизма академик Георгий СМИРНОВ отвечает на вопросы обозревателя АПН Евгения БЛИНОВА.**

## БЕСЕДА 2-я
## ГЛАВНЫЕ ТЕОРЕТИЧЕСКИЕ ПРОБЛЕМЫ МОМЕНТА

**Е. Блинов.** — В Платформе ЦК КПСС к XXVIII съезду партии указывается на необходимость для партии сосредоточиться на разработке теории. Какие теоретические проблемы вы считаете наиболее актуальными?

**Г. Смирнов.** — Наиболее остро стоят, конечно, три вопроса. Это вопрос собственности, это вопрос развития социалистической демократии, национальный вопрос. Они друг на друга взаимно влияют, друг от друга зависят. Но тем не менее о каждом из них надо говорить особо.

В вопросе о собственности мы, безусловно, запутались, увлекшись сверхцентрализацией управления экономикой. Следствием этого явилось отчуждение производителя от средств производства, ослабление коллективных и индивидуальных стимулов к труду. Корень наших ошибок в том, что мы пошли по линии жесткого огосударствления общественной собственности, что и привело к чрезмерной централизации управления, формированию командно - административной системы и в конечном счете к бюрократизации аппарата. В результате лишились инициативы и предприимчивости Советы, местные органы управления, предприятия, отдельные производители. Между тем ленинское понимание демократического централизма предполагает широкую инициативу мест, творчество масс. Мы же явно перестарались с централизацией.

В. И. Ленин позже, в период нэпа, понял необходимость децентрализации собственности. Нэп решал эту проблему. Наряду с государственной он в то время допускал государственно-капиталистическую, частную, кооперативную и индивидуальную собственность. Но Сталин понимал построение социализма как превращение всех видов собственности в государственную. Даже колхозно-кооперативная собственность при нем стала в значительной мере формальной. Таким образом и появилась у нас «ничейная» собственность, отчуждение производителя от собственности и потеря у него интереса к общественному труду.

**Е. Блинов.** — В стремлении возродить производственные стимулы сейчас многие предлагают вернуться к частной собственности. Как вы относитесь к этим предложениям?

**Г. Смирнов.** — Я считаю допущение частной или индивидуально-трудовой собственности вполне приемлемым для социализма делом, поскольку она поможет поднять экономическую активность и решить ряд проблем, особенно в сфере услуг. Но без применения наемного труда. Если меня убедят позже в обратном, то не считайте, что я обещал вам не поумнеть. Мы напрасно теснили индивидуальный труд. Если бы мы этого не допустили, мы бы были сейчас богаче и люди у нас были бы более устроенными. И социализм выиграл бы. Наш опыт показал, что обобществление средств производства тогда дает положительный эффект, когда оно обосновано технологически. Там же, где требуется индивидуальный труд, коллективизация производительных сил ничего не прибавляет. Сейчас мы пришли к признанию различных форм собственности. Должна быть общегосударственная собственность, то же на уровне республик, местных Советов, предприятий, кооперативов и индивидуальных тружеников. Это даст людям чувство хозяина и изменит их отношение к труду.

**Е. Блинов.** — Не могу не сказать здесь, что есть и другая точка зрения в отношении возрождения стимулов к эффективному общественному труду. Некоторые считают, что возвращение к собственности, особенно частной, как к стимулу — это шараханье, отступление от социалистических принципов. Социализм предполагает распределение по труду, но, строго говоря, мы еще никогда по труду не распределяли. У нас не было и до сих пор нет способа объективного соизмерения различных трудовых затрат. Централизованное распределение всегда субъективно и не может произвести ничего кроме уравниловки. Несправедливость распределения усугубляется произвольными ценами. Подлинное распределение по труду может быть результатом только развитой производственной демократии, когда сам трудовой коллектив определяет заработок каждого, а цены соответствуют реальной стоимости товаров, что может дать только развитой рынок. Сторонники этой точки зрения считают, что если бы у нас существовали эти условия, то проблема «отчуждения» не возникла бы, а социалистические стимулы к труду были бы вполне достаточными.

**Г. Смирнов.** — Есть такая точка зрения, у меня нет возражений, что в распределении у нас господствовал субъективизм и что только в коллективе можно точнее всего оценить труд и оплачивать его по количеству и качеству. Но я бы не согласился с тем, что мы полностью отошли от распределения по труду. Это верно, что у нас не выработаны научные критерии оценки качества труда. Но все-таки я считаю, что любой объективный закон проявляется через нарушения, через отклонения от нормы. И пусть было много ошибок, государство иным принципом не руководствовалось.

Другой острый вопрос: демократия. И Маркс, и Ленин не мыслили социализм без демократии. Ленин считал, что последовательная демократия превращается в социализм и она требует социализма. Он уделял огромное внимание Советам. При Ленине каждый год проводились выборы в местные Советы, ежегодно собирался партийный съезд, коллегиально велась работа в Центральном Комитете. Но постепенно мы низвели демократию до чисто формального уровня. Сейчас во весь рост встали такие вопросы: народного самоуправления, повышения роли местных Советов, политического плюрализма, многопартийности. Плюрализм — назвали его сперва социалистическим. Но дело социалистическим плюрализмом кончиться не может. Там, где есть социалистический, там будет и антисоциалистический плюрализм. Так оно и получилось. То же и с многопартийностью. Наряду с разновидностями социалистических движений сейчас в СССР есть и антисоциалистические.

**Е. Блинов.** — Сейчас многие считают, что мы переживаем своеобразный «разгул» плюрализма, что он скоро дойдет и до таблицы умножения. Мнений, конечно, может быть сколько угодно, но истина одна.

**Г. Смирнов.** — Истина одна, но она не определяется одним человеком, и даже одной партией. К тому же у каждой партии свои подходы к истине, а значит, своя тактика, своя стратегия. И если с философской точки зрения истина одна, то никто не может претендовать на то, что именно он владеет истиной. Поэтому плюрализм—это средство поиска истины, не всегда эффективное, но, очевидно, неизбежное.

***ПРОБЛЕМЫ И СУЖДЕНИЯ***

# ЕВРЕЙСКИЙ ИСХОД И «ВИЗОВОЙ ГАМБИТ» США

Все стало проще. Все стало еще сложней. Таков сегодня парадокс еврейской эмиграции из СССР, которая вызывает озабоченность у многих стран. Проще стало с выездом. Сложней — с отъездом. Еще сложней — с выбором направления, ибо израильская виза сейчас — это только Израиль, а отнюдь не Рим, добравшись до которого совсем недавно можно было забыть о родине предков и отправиться в США или иную страну.

По оценкам Израиля, ближайшие годы станут годами «исхода» евреев из СССР. Уже в этом году Тель-Авив ожидает прибытия более 100 тысяч бывших советских граждан. В последующие 5 лет — до 750 тысяч.

Но почему так сложна и болезненна эта проблема? Что стало причиной столь массовой миграции, более похожей на бегство? Слухи о якобы предстоящих еврейских погромах?

Слухи действительно имели место. И власти, и общественное мнение приписывают их происхождение и раздувание ультраправому крылу общества «Память». Разумеется, в огромном потоке отъезжающих есть и те, что поддались этим слухам. И все же, на мой взгляд, такое объяснение было бы упрощением. В большинстве случаев сработал комплекс причин.

Здесь и общая нервозная атмосфера нестабильности, вызванная поляризацией общественно - политических сил, и вспышки этнических конфликтов, то тут, то там сотрясающих страну, резкий рост преступности и, конечно же, главное — глубокий экономический кризис: пустые прилавки, рост цен, инфляция...

Есть и другой аспект, сыгравший немалую роль в усилении потока эмиграции. Я имею в виду некоторую либерализацию выездной процедуры. Правда, и сейчас еще «воссоединение с родственниками» — непременное условие для получения выездной визы на постоянное место жительства в другую страну. Хотя формальность этого предлога очевидна для всех (фиктивность многих «выездных браков», например, даже не скрывается), но «правила игры» соблюдаются обеими сторонами — и желающими уехать, и МВД СССР. Что же касается поездок за рубеж по приглашению, то теперь достаточно иметь гаранта (пригласившее и берущее на себя ваше материальное обеспечение лицо) на «той стороне» или согласие иностранного государства принять вас на жительство.

Да, выехать стало легче. Но — не парадокс ли? — именно теперь, когда наша страна в духе гласности и нового мышления разрешила евреям уезжать рекордными темпами (в минувшем году их выехало 102 тысячи — в 3,5 раза больше, чем в 1988 году), США, долгие годы добивавшиеся этого, практически захлопнули перед ними свои двери.

Несложным ходом — введением жесткой иммиграционной квоты (не более 50 тысяч ежегодно) и выдачей въездных виз — администрация США резко сократила поток еврейских иммигрантов в свою страну. Ужесточилась и сама процедура выдачи виз. Если раньше, выезжая из СССР, евреи почти автоматически получали в США статус беженца (а это примерно семь тысяч долларов, обеспечение жильем и другая помощь), то теперь необходимо доказать «обоснованность опасений», что, оставшись в СССР, они рискуют подвергнуться преследованиям.

В опубликованной недавно в «Вашингтон пост» статье Саймса признается, что угрюмая очередь перед американским посольством в Москве свидетельствует не только о «растущей неуверенности и трудностях советской жизни, но и о несостоятельности американской дипломатии, не сумевшей применить принцип «более доброй и мягкой Америки» к доведенным до отчаяния людям». По словам Саймса, еврейские активисты жалуются, что сотрудники консульского отдела американского посольства в Москве обращаются с ними более грубо, чем сотрудники советского УВИРа. «Я лично наблюдал, как они кричали на посетителей, надолго уходили пить кофе и отказывались называть свои фамилии»,— пишет он. Словом, новый американский порядок выдачи виз грозит обернуться для людей в очереди долгими месяцами, если не годами ожидания.

Каков же смысл разыгранного Соединенными Штатами «визового гамбита»? Официальная версия администрации Буша проста: перестройка в СССР, процесс демократизации и более терпимое отношение к эмиграции лишают советских граждан права претендовать на статус беженцев. Так или иначе, но новая иммиграционная политика позволила США только в прошлом году отказать в статусе беженца более чем половине желающих.

И все же истинные мотивы такого маневра США отнюдь не экономические. Сократив приток еврейских эмигрантов в свою стран[illegible] американские власти направ[illegible] его по иному руслу — напрямую в Израиль.

Политический смысл всего этого? На мой взгляд, его довольно точно подметил Саймс: «Безразличие к евреям, которые просят разрешения на переезд в США, только подтверждает подозрения многих русских, что Вашингтон проявлял лицемерие (ратуя за свободу эмиграции из СССР. — **В. К.**), что истинными мотивами Соединенных Штатов было не содействие правам человека, а желание поставить Советский Союз в неловкое положение и умиротворить Израиль».

Итак, Израиль... Теперь, после столь удачного хода своего заокеанского партнера, хода, достойного Макиавелли, он может быть уверен, что выехавшие из Москвы евреи уже не предпочтут Бруклин или Брайтон Бич родине предков. «Русский иудаизм был отделен от мирового еврейского движения железным занавесом в течение 70 лет. Сегодня евреи из России приезжают на землю Израиля. Народ Израиля ждет вас с большой любовью и надеждой». Это слова министра по делам иммиграции Переца.

Каковы же эти надежды? Прежде всего речь идет о мощном демографическом импульсе 3,7-миллионному еврейскому населению, которое весьма отстает по темпам рождаемости от арабов, населяющих Израиль, Западный берег и сектор Газа. А затем?

«Великая эмиграция потребует Великого Израиля. Нам необходимы пространства, чтобы приютить людей». Слова премьер-министра Шамира были, по сути, очередным подтверждением его планов расселения еврейских эмигрантов из СССР на оккупированных территориях. Это признание Шамира, обернувшееся для него роковым раундом «русской рулетки» (его кабинет и он сам вынуждены были уйти в отставку), вызвало взрыв возмущения как в арабских странах, так и у мирового сообщества. Идея использования эмигрантов в качестве инструмента политических амбиций израильских правых вновь спровоцировала напряженность в регионе, поставив под угрозу возможность урегулирования арабо-израильского конфликта.

...«Исход» из СССР — самый массовый отток еврейского населения со времен 1492 года, когда евреи покидали Испанию. Даже часть этого потока, направленная в сеттльменты за «зеленой линией» в накаленной атмосфере региона,— это живой динамит. Не удивительно, что, взглянув на этот процесс через призму интифады, СССР принял вынужденное решение об отмене специальных авиарейсов Москва—Тель-Авив.

Но евреи из СССР все равно уезжают. Через Польшу. Через Румынию. Швецию. И, как мне объяснили в УВИРе,— всеми возможными путями.

Говорят, в аэропорту Бен-Гурион их встречают цветами и песней «Народ Израиля жив». Ну а с чем столкнутся сами вновь прибывшие? Предполагается, что правительство выделит около 600 миллионов долларов на создание новых рабочих мест, обучение языку, переквалификацию. А пока что половина иммигрантов работой не обеспечена. Не приступали в Израиле и к намеченному строительству 25 тысяч новых и ремонту 5 тысяч старых квартир — жилья для новых граждан. Зато прогнозируется повышение квартирной платы. По последним данным, безработица достигла самого высокого за 20 лет уровня. Специалисты считают, что тенденция к ее росту будет сохраняться.

Тем временем уже сообщается о том, что появилась определенная напряженность между коренным населением и вновь прибывшими. Об этом свидетельствуют выступления в Хайфе и Тель-Авиве...

**Владимир КЮЧАРЬЯНЦ.**
(АПН).

*СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ*

# СЛАВЯНЕ НАД АДРЫЯТЫКАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 20, 21).**

Публікацыі беларускіх падарожнікаў пра становішча паўднёвых славян у складзе Асманскай імперыі і Аўстрыйскай манархіі, а таксама сустрэчы з вучонымі-славістамі абуджалі цікавасць у краёвай інтэлігенцыі. Так, Ян Чачот, адзін з першых беларускіх фалькларыстаў і паэтаў, у 1819 годзе звярнуў увагу Адама Міцкевіча на польскія пераклады сербскіх народных песень, запісаных Вукам Караджычам, якія былі апублікаваны на старонках варшаўскага часопіса «Паментнік навуковы». Пра гэты факт А. Міцкевіч пазней, будучы прафесарам славянскіх літаратур у Каледж дэ Франс у Парыжы, успамінаў з удзячнасцю. Цікава, што Вук Караджыч, бацька сербскага нацыянальнага адраджэння, заснавальнік сербскай філалогіі і этнаграфіі, гарачы прыхільнік славянскай садружнасці, у тым жа 1819 годзе па дарозе ў Пецярбург праязджаў праз беларуска-літоўскія землі, а нават і праз «галоўнае места краю — Вільню».

Няма сумнення, што азнаямленне Яна Чачота з фальклорнымі запісамі Вука Караджыча, якія вабілі сваёй арыгінальнасцю і жывым чалавечым пачуццём, спрыяла яшчэ большаму яго захапленню духоўным скарбам свайго народа. Трэба памятаць, што кожны высакародны прыклад адданасці народнай справе выклікаў адабрэнне і перайманне. У Беларусі ў тыя часы фальклорам цікавіліся Марыя Чарноўская, Эмілія Плятэр, Канстанцыя Флемінг, жонка Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага.

З глыбокім спачуваннем да лёсу паўднёвых славян, якія цярпелі прыгнёт заваёўнікаў, ставіўся пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808—1884). У паэтычнай аповесці пад назвай «Славяне ў XIX стагоддзі» ён уславіў вызваленчыя імкненні балканскіх народаў. Як і ў Міколы Гусоўскага, у яго шырока выкарыстоўваюцца народныя матывы паўднёвых славян. Гімнам свабодзе гучыць «Песня пра Дунай». Яе радкі палоняць паэтычнасцю, асабліва сімвалічны вобраз ракі Дунай.

**Рэчка славян, абудзіся ад соннай дрымоты!**
**Чыстай вадою абмый твар зямлі шматпакутнай!..**

Паўднёвыя славяне прыязна ставіліся да Расіі, адзінай славянскай краіны, якая змагла ў той час захаваць сваю дзяржаўную незалежнасць і самастойнасць. У сваёй нацыянальна-вызваленчай барацьбе яны ўскладалі на яе вялікія надзеі, лічылі сваёй заступніцай. Аднак палітыка рускага царызму і яго чыноўнікаў у адносінах да захопленых і далучаных земляў іншых народаў часамі іх вельмі засмучала. Асабліва на гэта рэагавалі прадстаўнікі прагрэсіўнай славенскай і харвацкай інтэлігенцыі, якія ў складзе Аўстра-Венгерскай манархіі з другой паловы 60-х гадоў XIX стагоддзя мелі мажлівасць развіваць культурна-асветную і навуковую дзейнасць. Іх глыбока кранулі трагічны лёс паўстання 1863 — 1864 гадоў у Польшчы і Беларусі, удушэнне царызмам усіх прагрэсіўных сіл, разгул рэакцыі і дэспатызму, што цягнуўся даволі працяглы час:

**Народ — як мёртвы.**
**Акаймаваны царскімі штыкамі,**
**Застылі на акрываўленай зямлі**
**Апрычнікі наўкола —гругамі.**

Па-братэрску выказаў свой боль і спачуванне да прыгнечаных царызмам вольналюбівых народаў Іван Цанкар (1876—1918), адзін з пачынальнікаў новай славенскай паэзіі, буйнейшы празаік, драматург і крытык.

Ідэі славянскага братэрства, узаемнай павагі, роўнасці і свабоды народаў паслядоўна развіваў у сваёй патрыятычнай публіцыстыцы беларускі паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч (1840—1900). Удзельнік паўстання 1863 года, ён бязлітасна выкрываў сацыяльную няроўнасць, эксплуатацыю і прыгнёт. Яго радавалі поспехі харватаў, чэхаў і іншых славянскіх народаў у барацьбе за волю і свабоднае развіццё нацыянальных культур. Вялікі народны пясняр лічыў, што прыклад, як шанаваць сваю культуру, мову, беларусам трэба пераняць у іх, калі хочуць, каб саміх паважалі. «Наша мова для нас святая,.. — з гордасцю адзначаў ён у сваёй прадмове да кнігі «Дудка беларуская». Гэта прадмова, прадыктаваная ўнутраным развіццём грамадства роднага краю і доказным прыкладам



Францішак БАГУШЭВІЧ.

братоў-славян, [illegible]ла для беларускага рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху своеасаблівай дэкларацыяй і праграмным маніфестам.

У недалёкай будучыні, у часы бурлівых падзей першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, праграмныя патрабаванні багушэвічаўскага маніфеста разам з купалаўскімі паэтычнымі радкамі за права «людзьмі звацца» будзілі працоўныя масы на барацьбу за легальны беларускі друк, нацыянальны тэатр і школу.

Народжаная на бурлівай хвалі першай рускай рэвалюцыі маладая беларуская легальная прэса шчыра вітала вызваленне славянскіх народаў Балканскага паўвострава ад шматвяковага турэцкага панавання.

З перамогай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі, якая абвясціла аб раўнапраўных адносінах да ўсіх народаў і дзяржаў, перад беларусамі адкрываліся шырокія магчымасці для сацыяльнага і нацыянальнага развіцця, наладжвання актыўных зносін з паўднёвымі славянамі. На іх лёс ідэі Кастрычніцкай рэвалюцыі таксама аказалі глыбокі ўплыў. У 1918 годзе Аўстра-Венгерская манархія распалася. У выніку гэтага краху паўстала Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў. Утварэнне агульнай дзяржавы паўднёвых славян заходняй часткі Балканскага паўвострава было мэтай шматвяковых імкненняў іх найбольш прагрэсіўных сіл, якія лічылі, што толькі такім чынам яны змогуць больш паспяхова абараняць свае землі ад нашэсця чужынцаў і забяспечыць сваё самастойнае палітычнае, эканамічнае і культурнае развіццё.

У Беларусі ў гэты час з глыбокай сімпатыяй і цікавасцю да жыцця і культуры паўднёвых славян над Адрыятыкай ставіліся многія прадстаўнікі інтэлігенцыі нашага краю, заходняя частка якога (тэрыторыя сучасных Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, некалькі паветаў Мінскай і Віцебскай губерняў) па Рыжскаму мірнаму дагавору паміж Савецкай Расіяй і Польшчай 18 сакавіка 1921 года адышла ў склад Польшчы.

У Беларускай ССР у 20-я гады на ніве развіцця культурных сувязей з югаслаўскімі народамі асабліва вылучаліся гісторыкі Уладзімір Пічэта і Вацлаў Ластоўскі. У. Пічэта, чый бацька быў родам з Герцагавіны, уваходзіў у лік арганізатараў Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Інстытута беларускай культуры, з'яўляўся першым рэктарам і прафесарам універсітэта, з 1928 года — акадэмікам АН БССР. З дзіцячых гадоў, дзякуючы бацьку Івану Хрыстафаравічу, ён захаваў замілаванасць да балканскіх абшараў і народаў, якія там жывуць. Іх лёс — перасяленне на паўночна-заходнюю частку Балканскага паўвострава і прыбярэжныя выспы Адрыятычнага мора, хрысціянізацыю і ўтварэнне дынастычных дзяржаў, знаходжанне ў турэцкай няволі і пад уладай Габсбургаў — паказаў Пічэта ў сваёй навуковай працы «Гістарычны нарыс славянства», якая ўбачыла свет яшчэ ў 1914 годзе.

В. Ластоўскага, як гісторыка і філолага, цікавіў фальклор славянскіх народаў, асабліва каляндарная абрадная паэзія, у якой адлюстроўваліся іх уяўленні аб прыродзе. Магчыма, гэта было выклікана падрыхтоўкай ім публікацыі аб абрадавай паэзіі беларусаў пад назвай «Духоўныя вершы 1762 году», якая прысвячалася царкоўным кантам і ўбачыла свет у зборніку «Запіскі аддзелу гуманітарных навук, кніга 4, сшытак 1». Трэба адзначыць, што ў мінулым ён, з'яўляючыся сакратаром рэдакцыі штотыднёвіка «Наша ніва», актыўна садзейнічаў публікацыі на старонках гэтага папулярнага ў славянскім свеце выдання матэрыялаў пра нацыянальна-вызваленчы рух паўднёвых славян. З той нашаніўскай пары цікавасць да іх гісторыі і культуры працягвалася ў яго ўсё жыццё. Вельмі адметна гэта праявілася ў фундаментальнай працы «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» (1926), у якой абгрунтавана даваў агульнасць этнагенезу ўсходніх, паўднёвых і заходніх славян, паказаў значэнне старaславянскай мовы і створаных на ёй помнікаў пісьменнасці, якія значна ўзбагацілі і беларускую кніжную культуру.

У. Пічэта і В. Ластоўскі высока ацэньвалі карысць навуковых кантактаў з югаслаўскімі калегамі і таму рабілі ўсё, каб навукова-даследчыя і вышэйшыя навучальныя установы Беларусі своечасова абменьваліся сваімі працамі з вучонымі Бялграда, Заграба і Любляны.

З мэтай пашырэння міжнародных кантактаў у красавіку 1926 года па ініцыятыве грамадскасці рэспублікі было ўтворана Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай. Характэрна, што сярод членаў-заснавальнікаў гэтай арганізацыі былі Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот і іншыя дзеячы беларускай культуры. Таварыства адразу ж наладзіла сувязі з шэрагам навуковых устаноў і цэнтральных бібліятэк Сербіі, Славеніі і Харватыі. А неўзабаве ў іх адрас былі накіраваны інфармацыйныя матэрыялы аб развіцці асветы, навукі і літаратуры ў Беларусі, выстаўкі графічных малюнкаў і народнага ўжытковага мастацтва.

У выніку добразычлівых кантактаў Беларускае таварыства ў сваю чаргу атрымлівала цікавыя матэрыялы аб развіцці культуры народаў Югаславіі. Аднак спрыяльныя ўмовы ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў рэспубліцы ў галіне культуры і грамадскім жыцці, што актыўна спрыяла беларускаму нацыянальнаму адраджэнню, у хуткім часе пагоршыліся. Пачалася сталінская кампанія па абвінавачванню многіх дзеячаў культуры ў «беларускім нацыянал-дэмакратызме», якая дасягнула свайго апагея ў 30-я гады. Зразумела, што ў тых складаных і трагічных абставінах не было мажлівасці і не было каму падтрымліваць рэ[illegible]ныя кантакты, развіваць культурныя сувязі з народамі Югаславіі. Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай аўтаматычна спыніла сваю дзейнасць.

Цікавую старонку ўяўляюць культурныя сувязі інтэлігенцыі Заходняй Беларусі са сваімі калегамі ў Югаславіі ў міжваенныя гады. Гэтаму спрыяла наведанне Вільні ўлетку 1930 года славенскім прафесарам Янам Шэдзівым. Многім тут ён быў ужо вядомы як аўтар артыкулаў па гісторыі і культуры беларускага народа. Цяпер жа госць з Любляны прыехаў, каб на месцы азнаёміцца з духоўным жыццём беларусаў і іх гістарычнымі помнікамі на землях, якія ўваходзілі ў склад Польскай дзяржавы (ІІ-й Рэчы Паспалітай).

Яну Шэдзіваму былі рады ўсюды, перш-наперш у Вільні, дзе найбольш было засяроджана беларускіх грамадскіх і культурных пляцовак. Тут ён змог спаткацца і мець гутаркі з паслом у польскім сейме, намеснікам старшыні Беларускага работніцка - сялянскага пасольскага клуба «Змаганне» і членам Галоўнай управы Таварыства беларускай школы, доктарам філасофіі Ігнатам Дварчанінам, культурным і грамадскім дзеячам Рыгорам Шырмам, мастакамі Язэпам Драздовічам і Пётрам Сергіевічам, многімі работнікамі культуры і беларускай прэсы.

Духоўную лучнасць з паўднёвымі славянамі над Адрыятыкай, прыязнасць да іх народна-паэтычнай творчасці выказваў вядомы беларускі спявак, саліст Міланскай і Пазнаньскай оперы Міхал Забейда-Суміцкі. Яго цікавіла пераважна абрадавая паэзія, што знаёміла з гаспадарчай дзейнасцю, святамі і звычаямі старажытных славян, у якой чутны і водгукі гістарычных падзей, звязаных з барацьбой супраць чужынцаў. Да такой зацікаўленасці спевака заахвоцілі яго выступленні на Польскім радыё ў Варшаве, якія з сярэдзіны 30-х гадоў перадаваліся для краёвага слухача і трансліраваліся на краіны Заходняй Еўропы, Паўночнай і Лацінскай Амерыкі. Ужо тады там было шмат славянскіх выхадцаў. Апрача польскіх народных песень, голас артыста даносіў да слухачоў чароўнасць калядных і велікодных песень паўднёвых славян. Павольна і ўрачыста гучала славенская калядка «Добры дзень гаспадару і гаспадыні», у якой былі шчырыя пажаданні шчасця і здароўя, быць вясёлымі, як птушкі ў лесе, здаровымі, як рыбкі ў вадзе, дужымі, як мядзведзі ў гарах, і каб было столькі дзетак, колькі на галінцы бывае вясновых парасткаў. На хвалях эфірнага прастору неслася і лірычная сербская песня «Ой, за лесам за зялёным». Спявак імкнуўся паказаць не толькі лірычнасць песень славенцаў, сербаў і чарнагорцаў, іх мілагучнасць, народную красу, але і глыбокі змест.

Мабыць, у прадбачанні вялікіх выпрабаванняў народаў з вуснаў вялікага артыста зляцелі словы:

**Гэй, славяне, яшчэ наша**
**мова вольна льецца,**
**Пакуль наша сэрца шчыра за**
**народ свой б'ецца...**

Гэта былі радкі з народнай песні — гімна паўднёвых славян. Гучалі яны загадкава і прарочa не толькі ў перадачах Польскага радыё, але і на канцэртах спевака ў Вільні. Словы песні заклікалі да гуртавання сіл, каб перашкодзіць вайне. «Я ж стараўся песняй з'ядноўваць людзей, — пісаў пазней сам спявак,— стараўся закрануць найдалікатнейшыя, самыя патаемныя і лепшыя струны чалавечага сэрца». Заклік да гуртавання сіл бачыўся і ў самім выкананні песень брацкіх народаў на канцэртах у часе ваеннага ліхалецця, што паслужыла для гітлераўцаў падставай абвінаваціць спевака, які займаецца прапагандай славянства.

Сувязі беларусаў з славянамі над Адрыятыкай складваліся стагоддзямі. На іх шляху




Вацлаў ЛАСТОЎСКІ.

было нямала цяжкасцяў, перашкод. Але імкненне ведаць, якога мы роду-племені, пазнаць сваю сапраўдную гісторыю, даведацца, як жывуць блізкія крэўныя народы, — заўсёды было добрай традыцыяй. Яна была той высакароднай рухаючай сілай, што ўзвышала, прыносіла радасць і духоўна ўзбагачала нашых продкаў, заахвочвала ствараць культурныя каштоўнасці, вартыя добрага слова, з чым можна было «выйсці ў людзі» — паказаць іншым народам. Бясцэнная традыцыйная вартасцю беларуска - паўднёваславянскіх зносін з'яўляецца тое, што брацкія народы заўжды былі ўзаемна спагадлівымі, гатовымі дапамагчы адзін аднаму.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**



**У Камінней зале Дома літаратара ў Мінску адбылася сустрэча з беларускім пісьменнікам Масеем Сяднёвым, які разам з дачкой знаходзіўся ў Беларусі. М. Сяднёў жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, куды прывялі яго пакручастыя жыццёвыя сцяжыны пасля другой сусветнай вайны. За мяжой у 80-я гады выйшлі найбольш значныя празаічныя творы і зборнікі вершаў пісьменніка: «А часу больш, чым вечнасць», «І той дзень надыйшоў».**

**У час сустрэчы М. Сяднёў чытаў свае вершы, адказваў на шматлікія пытанні.**

**НА ЗДЫМКУ: Масей СЯДНЁЎ [злева] і Янка БРЫЛЬ.**

**Фота У. КРУКА.**

ДУХОЎНА-МАРАЛЬНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ

# КЛУБЫ ЮНЕСКА

Сусветнае супольніцтва ўсё больш пераконваецца: у наш час ключавымі з'яўляюцца не столькі матэрыяльна - прагматычныя, колькі духоўна-маральныя каштоўнасці. Гэтая думка чырвонай ніццю праходзіла ў выступленнях удзельнікаў Першага ўсесаюзнага з'езда клубаў ЮНЕСКА ў Маскве. Савецкі Саюз стаў 97-й краінай, якая ўступіла ў Асацыяцыю клубаў ЮНЕСКА.

— Пытанні духоўна-маральнага парадку сталі вызначальнымі і ў лёсах нашай перабудовы,— сказаў старшыня каардынацыйнага савета Савецкай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА Г. Куцаў.— Самая сур'ёзная пагроза ёй — адсутнасць грамадскай згоды, нарастанне міжнацыянальных і эканамічных канфліктаў, звядзенне рахункаў па гістарычна зжыўшых сябе прычынах, панаванне эмоцый над розумам, заняпад сацыяльнай адказнасці і дысцыпліны. Захаваць перабудову, вывесці ўсё сусветнае супольніцтва на арбіту бяспекі можа толькі духоўнае абнаўленне. Перакананы, што большасць маладых людзей, якія сталі арганізатарамі клубаў сяброў ЮНЕСКА, шукаюць перш за ўсё духоўна-маральнага абнаўлення.

На з'езд Савецкай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА прыбылі 120 дэлегатаў з усіх саюзных рэспублік, з усіх куткоў краіны ад Ціхага акіяна да Балтыкі. Яны зацікаўлены, як сказаў адзін з яго ўдзельнікаў, у выпрацоўцы «планетарнай свядомасці», у кансалідацыі інтэлектуальных сіл, у аб'яднанні і распаўсюджанні перадавых ідэй. У адных рэгіёнах краіны ўжо створана некалькі дзесяткаў клубаў, аб'яднаных у моцную асацыяцыю, як, напрыклад, у Беларусі. У іншых, скажам, у Латвіі, усяго адзін клуб.

— Пакуль я прадстаўляю толькі самога сябе,— гаворыць А. Баўманіс, які прадстаўляе клуб ЮНЕСКА з Рыгі.— Я адзіны член клуба, але, упэўнены, такое становішча працягнецца нядоўга. Мне здаецца, клубы ЮНЕСКА неабходныя для сістэмы адукацыі нашай рэспублікі. Гэтае пытанне цікавае для мяне ў чыста прафесіянальным плане. Я працую намеснікам дырэктара школы ў Рызе. [illegible]ам важна ведаць аб стане педагагічнай навукі за мяжой, каб уключыцца ў Міжнародную сістэму адукацыі. Адна з галоўных праблем у рэспубліцы — моўная, яна цесна звя[illegible] з праблемай міжнародных [illegible]сін. Мы хочам наладзіць сувязь паміж клубамі ЮНЕСКА не толькі ў краіне, але і за мяжой, каб школьнікі адчувалі сябе членамі сусветнага супольніцтва.

Гісторыка І. Велічанскага па праву называюць прэзідэнтам Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА: іх у рэспубліцы больш за два дзесяткі, прычым яны актыўна дзейнічаюць. «Наша рэспубліканская асацыяцыя ствараецца па тэрытарыяльнай прыкмеце, з улікам шырокага спектра інтарэсаў,— гаворыць Велічанскі.— Прыярытэт мы аддаём развіццю навукі, культуры, адукацыі. Наш асобы клопат — сельскія школы, якія мы хочам увесці ў сферу міжнароднага супрацоўніцтва. У прыватнасці, у нас ёсць праграма асацыіраваных школ, якія маюць выразную моўную накіраванасць і звязаны са школамі ў іншых краінах. Такія асацыіраваныя школы атрымалі сертыфікат ЮНЕСКА».

Сакратар-каардынатар Кіргізскай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА Б. Юсупаў заклапочаны праблемай захавання культурнай спадчыны. «Мы хочам прыняць удзел у праекце ЮНЕСКА «Шаўковы шлях», адрадзіць выраб кіргізскага лямцу і знайсці сакрэты ткацтва некалі славутых паўднёвакіргізскіх дываноў. Пад эгідай ЮНЕСКА плануем правесці ў Кіргізіі навукова - тэарэтычную канферэнцыю «Чалавек і горы». Кіргізія — рэспубліка горная, і тыя праблемы, што характэрныя для нашага рэгіёна, напэўна, зацікавяць Афганістан, Кітай, Індыю, Непал і іншыя краіны. Мы хочам правесці самыя розныя даследаванні—ад этнаграфіі да сацыялогіі—пры шырокім удзеле замежных даследчыкаў».

Прэзідэнтам Савецкай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА выбраны вядомы мастак Э. Цэрэтэлі.

**Марына ХАЧАТУРАВА.**

# ІДЗІ, НАРОДЗЕ УВАСКРЭСЛЫ!

**[Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.].**

нага панавання Франкскай імперыі на землях заходніх славян. Адна за другой выдаюцца папскія граматы, што забараняюць выкарыстанне славянскай мовы ў час царкоўнай службы. Вучэнне Кірылы і Мяфодзія аб'яўлена ерассю.

І калі справа Кірылы і Мяфодзія не загінула, а, наадварот, паслужыла асновай для росквіту новай славянскай сярэдневяковай цывілізацыі, то гэта дзякуючы таму, што насенне знайшло ўрадлівую глебу ў Балгарыі.

У канцы 885 — пачатку 886 гадоў у Балгарыю прыбыла група вучняў Кірылы і Мяфодзія. У асобе князя Барыса І і яго сына Сімяона яны знайшлі тое, што Кірыла і Мяфодзій не знайшлі на працягу ўсяго свайго жыцця— мудрых палітыкаў, якія прынялі блізка да сэрца ідэю асветы славянства і ператварылі яе ў зброю незалежнай палітыкі. Балгарыя Барыса І, стаўшы даволі магутнай дзяржавай, ператварыўшыся ў трэцюю ваенна - палітычную сілу ў Еўропе пасля Візантыі і Франкскай дзяржавы, упарта шукала сваё месца паміж Канстанцінопалем і Рымам, між грэкамоўнай і лацінамоўнай цывілізацыямі.

Прыход вучняў першанастаўнікаў нашых у Балгарыю азначаў не толькі распаўсюджанне славянскай пісьменнасці на балгарскіх землях і не толькі рэлігійную місію. Зліўшыся з дальнабачнай палітыкай Барыса і Сімяона, справа Кірылы і Мяфодзія набыла ў Балгарыі свой сапраўдны сэнс, ператварылася ў сродак стварэння культурна - палітычнай мадэлі, якая пазней была выкарыстана ўсходнімі і паўднёвымі славянамі. І калі Балгарыю называюць «калыскай славянскай пісьменнасц»і, то не толькі таму, што мова Кірылы і Мяфодзія — гэта мова балгарскіх славян, але і таму, што палітычная воля двух балгарскіх правіцеляў IX—X стагоддзяў указала праваслаўнаму славянству шлях самастойнага развіцця.

Створаная ў Балгарыі мадэль самастойнай літаратуры на ўласнай мове знаходзіць шырокае прымяненне і ў іншых краінах. Па гэтай мадэлі, пры непасрэдным выкарыстанні старабалгарскіх літаратурных узораў і старабалгарскай літаратурнай мовы, узнікае сярэдневяковая літаратура ў Расіі, Сербіі, Валахіі і Малдавіі. На сённяшні дзень кірыліца з'яўляецца афіцыйнай азбукай многіх славянскіх і шэрагу неславянскіх народаў, што складаюць 10 працэнтаў усяго насельніцтва планеты.

Я хацеў бы выказаць сваю бязмежную радасць, што ў гэтым годзе менавіта Мінск стаў цэнтрам Усесаюзнага свята святых славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Гэты факт — пацвярджэнне і доказ самых старажытных сувязей паміж славянскімі народамі, у прыватнасці паміж балгарскім і беларускім.

У старажытныя часы з балгарскіх зямель у Расію неслі культуру вучні Кірылы і Мяфодзія Клімент, Навум, Ангеларый, Канстанцін Прэслаўскі, Яўцімій Тырнаўскі, Йона Экзарх, Рыгор Цамблак. Гэтая культура распаўсюджвалася спачатку на рускіх землях, а потым і сярод беларусаў і ўкраінцаў. Вяршыняй культуры таго часу сталі такія творы, як «Слова аб палку Ігаравым», «Аповесць мінулых гадоў», «Слова пра Барыса і Глеба» і г. д. На азбуцы Кірылы і Мяфодзія пісалі свае творы славутыя беларускія культурныя дзеячы Ефрасіння Полацкая, Сімяон Полацкі, Кірыла Тураўскі. Пасля заняволення туркамі шэраг балгарскіх асветнікаў і царкоўных дзеячаў жылі і працавалі на беларускай зямлі, стварылі своеасаблівыя школы творчасці. Так Рыгор Цамблак, аўтар больш як 40 твораў, пераважна панегірычна - дыдактычных «слоў», жыў дваццаць гадоў у Навагрудку. Літаратурная спадчына Цамблака была добра вядома на ўсходнеславянскіх землях, у тым ліку на Беларусі.

У вядомым Успенскім саборы ў Маскоўскім Крамлі пахаваны балгарын, які садзейнічаў сваёй працай збліжэнню двух нашых народаў. На першай справа мармуровай грабніцы гэтай самай старой царквы напісана: «Святы Кіпрыян — мітрапаліт Маскоўскі». Ён быў і мітрапалітам Кіеўскім, жыў некаторы час у Беларусі. Імя Кіпрыяна ўключана ў пантэон святых, і гэтым выказана ўдзячнасць чалавеку, які на працягу 30 гадоў кіраваў рускай царквой. У «Памятнай кніжцы» Віцебскай губерні на 1889 год адзначана: «Кіпрыян, мітрапаліт Кіеўскі і Маскоўскі, 1406 г. 16 верасня і 27 мая».

Мітрапаліт Кіпрыян адыграў важную ролю ў жыцці рускага грамадства канца XIV — пачатку XV стагоддзяў. Ён праяўляў вялікі клопат аб развіцці на Русі культурна-асветніцкай і літаратурнай дзейнасці. Высокаадукаваны і эрудзіраваны, выключна таленавіты і працавіты, ён садзейнічаў далучэнню літаратараў да перакладчыцкай, а таксама творчай пісьменніцкай працы, памнажэнню рукапіснага і літаратурнага багацця Русі. Аўтар шматлікіх агіяграфічных, гімнаграфічных, эпісталярных і іншых твораў, Кіпрыян адыграў і ролю мецэната ў развіцці старажытнарускай літаратуры. Яго вялікая па аб'ёму і жанравай разнастайнасці літаратурная [illegible]спадчына сведчыць аб ты[illegible]то і на сваёй другой рад[illegible]ме ён развіваў традыцыі старажытнабалгарскай літаратуры і перш за ўсё Тырнаўскай школы кніжнасці.

Цікава адзначыць і такі факт. Вядома, што ў баях за вызваленне Балгар[illegible] 1877—1878 гадах удзельні[illegible] і сыны Беларусі ў складзе Мінскага і Магілёўскага пяхотных, Беларускіх уланскіх і Гродзенскіх гусарскіх, а таксама ў складзе іншых палкоў. Яны змагаліся побач з балгарскімі апалчэнцамі, на сцягу якіх былі адлюстраваны Кірыла і Мяфодзій — нібыта паўтараліся падзеі IX стагоддзя, калі Балгарыя ўспрыняла справу братоў як зброю ў барацьбе за сваю незалежнасць.

За пяць месяцаў маёй работы консулам у Мінску я пераканаўся, што балгарскія асветнікі з даўніх часоў былі вядомы беларускаму народу. Так, у цэнтры сталіцы Беларусі знаходзіцца будынак былога Кірыла-Мяфодзіеўскага манастыра, асвячонага імем святых братоў 4 студзеня 1860 года. У памяць аб гэтым і была створана царква св. Кірылы і Мяфодзія ў падвале Свята-духавага сабора. На будынку былога манастыра сёлета 24 мая ўстаноўлены барэльеф з вобразамі святых братоў, адбылося афіцыйнае перайменаванне вуліцы Бакуніна, што прылягае да манастыра і царквы, у вуліцу Кірылы і Мяфодзія.

Мне стала вядома, што на тэрыторыі Беларусі існуе яшчэ адна царква, якая носіць імя славянскіх першанастаўнікаў. Яна знаходзіцца ў Пагост-Загародным Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. А раней такіх цэркваў было, напэўна, намнога больш. Згодна со статыстычнымі данымі аб цэрквах і царкоўных прытчах Полацкай епархіі, змешчанымі ў Памятнай кніжцы Віцебскай губерні за 1889 год, пры Віцебскай духоўнай семінарыі існавала царква Кірылы і Мяфодзія. У нашы дні царквы гэтай ужо няма, але архіепіскап Дзмітрый запэўніў нас, што «на працягу 4—6 месяцаў адна з цэркваў будзе асвячона імем святых стваральнікаў азбукі нашай».

Мае пошукі ў аддзеле рэдкіх і рукапісных кніг бібліятэкі імя Леніна былі ўзнагароджаны. У «Магілёўскіх епархіяльных ведамасцях» (21 мая—14 чэрвеня 1885 года, № 15—16, стар. 353) я знайшоў выдатную карэспандэнцыю: «Дзень Кірыла-Мяфодзіеўскага свята ў м. Бялынічах Магілёўскага павета». Вось пра што яна расказала:

«Абстаноўка службы Божай, як ва ўсякім сельскім храме, відаць, была звычайнай, а між тым, усё выглядала па-святочнаму і ўсё дыхала нібыта небывалаю святочнасцю.

Айцом пратаіерэем пры кожным Богаслужэнні пасля звычайнай пропаведзі сталі рабіцца агалашэнні аб надыходзячым вялікім усеславянскім святкаванні ў гонар святых братоў Мяфодзія і Кірылы, незабыўных для нас, рускіх славян, як насаджальнікаў хрысціянства, як першанастаўнікаў царкоўнай славянскай граматы, як арганізатараў Богаслужэння на даступнай нашаму разуменню славянскай мове — з запрашэннем прыехаць, пакінуўшы на гэты дзень усе свае штодзённыя клопаты, і сабрацца ў храм для прынясення малітоўнай падзякі святым падзвіжнікам, і за дзяцей, якія маюць магчымасць карыстацца працамі іх у адкрытых царкоўнапрыходскіх школах.

Але вось надышоў дзень урачыстасці; яна пачалася 5-га красавіка ў 6 гадзін вечара. Раздаўся заклік звона да ўсяночнай. Людзі прыйшлі з вёсак за 7 і 10 вёрстаў. Храм напоўніўся.

Дзіўна, што дзеці сялян, якія павучыліся ў школах якіх-небудзь няпоўных 5 месяцаў, маглі ўжо ў дзень праслаўлення памяці святых асветнікаў славян Мяфодзія і Кірылы аддзячыць іх сваімі чыстымі галасамі.

На літургіі айцом пратаіерэем сказана было адпаведнае ўрачыстасці слова аб тым, чым дарагая для нас памяць святых братоў Кірылы і Мяфодзія, з кароткім нарысам іх жыцця, прац і сціплых подзвігаў і з выдатным вывадам, што лепш за ўсё мы можам аддзячыць сятткуемых святых, калі будзем выхоўваць дзяцей сваіх так, як завяшчалі св. св. Кірыла і Мяфодзій».

І карэспандэнт заключае справядліва: «Магчыма, у многіх месцах славянскага асяроддзя — я гавару аб бедных сяленнях, падобных на мястэчка Бялынічы — Кірыла-Мяфодзіеўскае святкаванне было значна больш урачыстым, чым наша, але для нас і тое, што мы бачылі, было даволі знамянальным і пакінула пасля сябе нямала светлых успамінаў, таму што праводзілася ад шчырай душы, без усякай афіцыйнасці, з адной вялікай прыхільнасці і з павагі да памяці і паслуг св. першанастаўнікаў нашых».

Усе гэтыя і іншыя даныя паказваюць, што беларускі народ і раней шанаваў памяць святых братоў Кірылы і Мяфодзія, называў іх імёнамі свае цэрквы, перапісваў іх кнігі, пісаў іх лікі на іконах, аб чым сведчаць экспанаты музея ў горадзе Ветцы. Значыць, мы можам гаварыць аб адраджэнні свята стваральнікаў славянскай азбукі, як і аб адраджэнні беларускай мовы.

Дарагія чытачы «Голасу «Радзімы», 24 мая гэтага года ўпершыню ў Беларусі прагучаў на беларускай мове гімн Кірылы і Мяфодзія:

**Ідзі, народзе уваскрэслы,**
**да светлай прышласці ідзі,**
**з пісьменствам, гэтай сілай новай,**
**шчаслівы лёс сабе знайдзі!**

Я спадзяюся, што гэты гімн будзе гучаць кожны год 24 мая. Кожнай вясной дзіцячыя рукі будуць упрыгожваць кветкамі партрэты Кірылы і Мяфодзія, і ў школах, і ва універсітэтах будзе гучаць гімн «Ідзі, народзе уваскрэслы!»

**Пётр КУЦАРАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**консул Генеральнага консульства НРБ у Мінску.**

